**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№19(683)**
**9 траўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

*Вiншуем са святам вялiкай Перамогi!*

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае







Фота Ул. Скрабатуна.

Салдат Перамогі!

## 1 мая цэны на звадкаваны газ для камунальна-бытавога спажывання арганізацыямі і ІП павышаны ў сярэднім на 1,3%

**1 мая цэны на звадкаваны газ для камунальна-бытавога спажывання арганізацыямі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі (ІП) павышаны ў сярэднім на 1,3%. Гэта прадугледжана пастановай урада № 25 ад 18 красавіка, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале** (www.pravo.by).

Згодна з дакументам, цана на вуглевадародныя звадкаваныя паліўныя газы для камунальна-бытавога спажывання, якія рэалізуюцца арганізацыям, што ўваходзяць у склад дзяржаўнага ВА «Белпалівагаз», на ўмовах «франка-адпраўленне» павялічылася з 1.388.490 да 1.406.260 рублёў за тону, а на ўмовах «франка-склад арганізацыі-вытворцы» — з 1.384.270 да 1.40.990 тыс. за тону (франка-ўмова — гэта ўмова пастаўкі тавару, пры якой пакупнік не аплачвае расходы па пагрузцы і транспарціроўцы партыі тавару, бо гэтыя расходы ўключаны ў кошт тавару).

Адпускная цана на звадкаваныя газы для камунальна-бытавога спажывання, якія рэалізуюцца арганізацыям, што не ўваходзяць у склад «Белпалівагазу», фарміруецца з улікам рыначнай кан'юнктуры.

Адпускная цана на вуглевадародныя звадкаваныя паліўныя газы для камунальна-бытавогаспажывання для запраўкі ў балоны, якія рэалізуюцца юрасобам і ІП, павялічылася на ўмовах «франка-склад арганізацыі-вытворцы» з 1.463.540 да 1.482.270 рублёў за тону.

Папярэдняе падаражанне звадкаванага газу для такой катэгорыі спажыўцоў адбылося 21 сакавіка гэтага года. Тады цэны на вуглевадародныя звадкаваныя паліўныя газы таксама былі павялічаны на 1,3%.

*Марына Носава, БелаПАН.*















## МНС інфармуе
**на 07.05.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 428;
Гібель людзей – 63, з іх 1 дзіця;
Урон – 2235,5 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 21;
Гібель людзей – 4, з іх дзяцей няма;
Урон – 214.7 руб.

Віцебскі раён

# Даў слова – стрымай

■ Кастусь Александровіч

**Напрыканцы мінулага года кіраўнік Беларусі наведаў чацвёртым па ліку ААТ "Віцебскдрэў" і разбіраўся ў прычынах таго, чаму тут з 2009 года не могуць рэалізаваць інвестпраект па выпуску драўнінавалакністых пліт.**

Тады ж А. Лукашэнка даў станоўчую ацэнку працы кіраўніцтва вобласці, якая нібыта выйшла на лідзіруючыя пазіцыі ў краіне. Не прайшло і паўгода, як прэзідэнт змяніў ласку на гнеў і аб'явіў вымову старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандру Косінцу за невыкананне ягоных даручэнняў. Дарэчы, у снежні глава дзяржавы запатрабаваў працаваць на мадэрнізіруемым прадпрыемстве як у ваенны час: днём і ноччу. Аднак з такой задумы нічога не атрымалася, падвялі нібыта будаўнікі высокае начальства. На самім "Віцебскдрэве" , падобна на тое, сітуацыя мала памянялася ды і заробкі ў людзей, якіх амаль 2 тысячы "прывязалі" да станкоў і забаранілі адсюль звальняцца, далёкія ад абяцаных. А так прыгожа ўсё атрымлівалася падчас дакладу таварышам са сталіцы зімой. Тады гаварылася, што напрыканцы снежня сярэднія заробкі ў вобласці дасягнуць 580 долараў, а ў 2015 годзе будуць ужо 1 тысяча USD у эквіваленце. Цікава, што раней тэрміны здачы новай вытворчасці ў абласным цэнтры пераносіліся тройчы і зноў сарваныя. Пад пільным кантролем органаў улады ў мінулым годзе тут рэнтабельнасць прадаж знізілася з 11,5 да 6,4 % у параўнанні з 2011 годам. Як ні круці, але падвялі віцебскія ўпраўленцы кіраўніка Беларусі і атрымалі дысцыплінарны наганяй разам з галіновым міністрам і старшынёй шматпакутнага канцэрна "Беллеспаперапрам".

Верхнядзвінскі раён

# Паўгорада пад вадой

■ Чэслаў Якубовіч

**Асаблівасцю сёлетняй вясны ў Беларусі стала тое, што былі даволі сур'ёзна падтоплены трэць раёнаў, а ў ліку асабліва пацярпелых аказаўся Верхнядзвінск.**

Калі вада пайшла на спад на поўдні і на захадзе краіны, то тут, у самім райцэнтры, зноў паўтарыўся самы вялікі патоп, пачынаючы з вельмі снежнага 1962 года. Гэта вам не жартачкі, паколькі 24 з усіх 40 гарадскіх вуліц аказаліся ў рознай ступені залітыя халоднай вадой. Як вядома, сам горад размешчаны на зліцці рэчышчаў дзвюх рэк Заходняй Дзвіны і Дрысы. Калі ўзровень вады ў адной з іх наблізіўся да 11 метраў, дзве вуліцы райцэнтра сталі нагадваць маленькую Венецыю. Рака ўварвалася і затапіла па калена і нават да вокнаў больш двухсот жылых дамоў, прыйшлося адсяліць 17 сем'яў. Пад вадой апынуўся і гарадскі стадыён, прыйшлося абсточыць па суседстве раённы Дом культуры, дзе сталі "плаваць" падвальныя памяшканні. Падтопленымі аказаліся некалькі магазінаў, школ, дзіцячых садоў, пад вадой апынулася і прыгарадная вёска Бароўка. Адрэзанымі ад цывілізацыі сталі яшчэ тры населеных пункты раёна і Луначарскі дом-інтэрнат прэстарэлых і інвалідаў паблізу ракі. З гэтай установай і вёскамі падтрымлівалі сувязь і праводзілі забеспячэнне прадуктамі з дапамогай кацера. Дзякуючы намаганням мясцовых улад і выратавальнікаў раёна жыццезабеспячэнне пацярпелых паселішчаў не было парушана, хоць людзі і нацярпеліся ад стыхіі. Да падтопленага пешаходнага маста праз Дрысу прыйшлося зрабіць часовую драўляную дарожку і шмат дзе насціпы, каб выбрацца на сушу. Такая вялікая паводка адбілася і на пасяўной, бо многія ўчасткі апынуліся пад вадой.

Полацкі раён

# Найбольшы ўрон для ГЭС

■ Станіслаў Раманчук

**Да маштабаў стыхійнага бедства, на шчасце, сёлета ў нас падчас разводдзя не дайшло.**

Не было і чалавечых ахвяр, калі пад раніцу прарвала дамбу ў Петрыкаўскім раёне на Палессі, а вось наступствы падобнага здарэння ў Полацкім раёне аказаліся куды больш вялікія. Тут таксама каля першай гадзіны ночы напор вады праграў 40 метраў дамбы на будаўнічай пляцоўцы будучай ГЭС. Праўда, нібыта прадчуваючы ўдар воднай стыхіі , адсюль своечасова эвакуіравалі ўсю тэхніку і працуючых людзей. Затапіла і некалькі службовых памяшканняў, а галоўнае быў затоплены вялізны глыбокі катлаван на месцы будучага гідравузла гідраэлектрастанцыі памерам 200 на 250 метраў. Па ацэнцы спецыялістаў, ужо не ўдасца ў намечаны час летам 2015 года здаць ГЭС у эксплуатацыю. Прыйшлося на будоўлі аператыўна пачаць аварыйнае аднаўленне дамбы, на новую перамычку патрацiць тысячы тон шчэбеню з пяском. Не проста будзе зноў асушыць вялікую пляцоўку, якую пачалі бетаніраваць. Дадатковыя расходы пойдуць і на рамонт пашкоджаных частак верхавой перамычкі. Маштабы разрушэнняў і прычыны надзвычайнага здарэння на аб'екце павінна вызначыць спецыяльная дзяржаўная камісія: чаму разводдзе аказалася мацнейшым за інжынерныя разлікі. Добра, што бліжэйшыя населеныя пункты ў гэтай мясцовасці не пацярпелі. Аднаўленчыя работы на будучай ГЭС яшчэ больш актывізуюцца, калі вада поўнасцю спадзе і не будзе моцных дажджоў. Дарэчы, веснавыя воды сёлета яшчэ затапілі па краіне 14 аўтамабільных мастоў і 5 аздараўленчых лагераў, каля сотні ўчасткаў дарог, шмат жылля, і іншых пабудоў, ад чаго беларусы ўжо адвыклі апошнім часам.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 09.05.13 | | | | Пятніца 10.05.13 | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | |
| Тэмпература | +11 | +17 | +23 | +20 | +13 | +19 | +23 | +20 |
| Ціск | 753 | 752 | 751 | 749 | 747 | 746 | 745 | 744 |
| Вільготнасць | 80 | 68 | 36 | 42 | 72 | 69 | 52 | 57 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-У | 4 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд-З | 5 Пд-З | 3 Пд |

| | Субота 11.05.13 | | | | Нядзеля 12.05.13 | | | | Пнд.13.05.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +19 | +19 | +15 | +9 | +12 | +16 | +16 | +11 | +17 | +24 |
| Ціск | 742 | 742 | 744 | 745 | 746 | 746 | 745 | 743 | 742 | 741 | 740 |
| Вільготнасць | 73 | 77 | 56 | 60 | 81 | 79 | 52 | 53 | 79 | 76 | 38 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 6 З | 6 З | 3 Пн-З | 2 Пн-У | 3 Пн-У | 5 Пн-У | 4 Пн-У | 5 У | 5 У | 5 Пд-У |

# Аб самым надзённым

## ТРЭЦЬ ВУП НА СКЛАДАХ ЗАСВЕДЧЫЛА АБ ПЕРШЫХ ПРЫКМЕТАХ РЭЦЭСІІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ

■ Аляксандр Цішкевіч

**З аднаго боку беларускі ВУП за гэты перыяд падрос на 3,5 %, а вось айчынная прамысловасць цягне краіну на дно. І самае страшнае, што на айчынных прадпрыемствах ужо больш як паўгода назад пачаўся спад вытворчасці. У пачатку красавіка на складах знаходзілася гатовай непрададзенай прадукцыі на 32,33 трыльёны рублёў. Аказаліся непатрэбныя знешнім спажыўцам беларускай тэхнікі і машын і нават прадуктаў харчавання і харчовай прамысловасці.**

Сёлетняе традыцыйнае пасланне кіраўніка Беларусі Нацыянальнаму сходу і народу было як ніколі кароткім і працягвалася толькі дзве гадзіны, у два разы карацей мінулагодняга выступу. Таксама ў дэпутатаў новага склікання амаль не знайшлося для беларускага лідара вострых надзённых пытанняў, хоць ключавым момантам агучаных А. Лукашэнкам ідэй чарговых трох нацпраектаў стала мадэрнізацыя айчыннай эканомікі.

Да нядаўняга часу ў нас патрабавалі выканання і перавыкання прагнозных параметраў чарговай пяцігодкі. І выходзіла, што на паперы і ў дзяржаўных СМІ атрымоўвалася ўсё гладка і роўна, а цяпер сталі гаварыць, што патрабуецца актыўна абнаўляць нашы заводы і фабрыкі, для чаго просім у свайго галоўнага саюзніка Расіі яшчэ 2 млрд. долараў каб купіць і завезці на прадпрыемствы сучасныя станкі і абсталяванне, а ў астанім курс застанецца нязменным. Будзем ісці сваім шляхам, паколькі мадэрнізацыю, як нам паведамілі, вядзём даўно.

У сталічнай авальнай зале высветлілася, што беларусаў чакае апошняя і крайняя стадыя гэтай мадэрнізацыі. Грамадству далі сігнал, што " никакая это не маниловщина и не выдумка Лукашенко, это объективное требование нашей жизни". А вось што было нечаканым у тым выступленні: прагучала адкрыта даволі шмат трывожных фактаў. Як паведаміў глава дзяржавы, па выніках працы ў студзені-сакавіку на складах скапілася непрададзенай гатовай прадукцыі ў 2 разы болей, чым у І-м квартале мінулага года.

З аднаго боку беларускі ВУП (123,3 трлн. рублёў) за гэты перыяд падрос на 3,5 %, а вось айчынная прамысловасць цягне краіну на дно. І самае жахлівае, што на айчынных прадпрыемствах ужо больш як паўгода назад пачаўся спад вытворчасці. У пачатку красавіка на складах знаходзілася гатовай непрададзенай прадукцыі на 32,33 трыльёны рублёў. Аказаліся непатрэбныя знешнім спажыўцам беларускай тэхнікі і машын на 9,2 трлн. рублёў і нават прадуктаў харчавання і харчовай прамысловасці яшчэ на 6,5 трлн. рублёў. Калі разабрацца, высвятляецца, што не могуць прадаць на знешніх рынках сваю прадукцыю менавіта флагманы індустрыі і таксама перапрацоўчыя заводы АПК.

У чарговы раз паступіла зверху каманда разгрузіць склады, ураду РБ, мясцовым органам кіравання стаць зноў вялікім Міністэрствам гандлю. Праз некаторы час адрапартуюць, што з гэтай задачай, хоць бы на паперы, справіліся. Але надзённых праблем гэта не вырашыць, у чым можна не сумнявацца. Прэзідэнт сам прызнаўся, што гэта дрэнна, калі стаяць нераспакаваныя розныя новыя станкі. Нарэшце магчымасці аб'яднання МАЗа з расійскім КамАЗам ён зноў засумняваўся, бо ў беларусаў няма грошай на яго мадэрнізацыю.

А. Лукашэнка пакляўся не ісці на гэту "акцыю бандыцкую", бо за ёй стаяць замежнікі з Германіі і Амерыкі, якія зацікаўлены МАЗ закрыць, а беларусаў прымусіць варыць кабіны ўручную і кляпаць якія-небудзь паўвозі. Праўда, праз некалькі дзён на гэту рэпліку Крэмль адрэагаваў па-свойму і паабяцаў у 3-4 кварталах скараціць аб'ёмы паставак нафты ў Беларусь, бо няма вынікаў ад сумесных інтэграцыйных праектаў, аб якіх столькі часу дамаўляліся. Дарэчы, цяпер ужо ў свеце многія прызнаюць, што менавіта на беларускай зямлі квітнеюць савецкія парадкі з папраўкай на новае стагоддзе і пэўную інфарматызацыю грамадства.

У нас не прынята сумнявацца ў правільнасці выбранага курсу. Толькі давайце ўзгадаем, што менавіта СССР спазніўся з правядзеннем навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, не вытрымаў гонкі ўзбраенняў і ў выніку гістарычнай драмы ўшчэнт развалiўся. У Беларусі няма вялікіх сродкаў на правядзенне той жа мадэрнізацыі. На МАЗе тым часам ужо сёлета няпростая сітуацыя, а тэлезавод "Гарызонт" вясной зноў стаў прастойваць і гэта не адзінкавыя прыклады. Пагаршэнне стану знешнегандлёвых аперацый можа сёлета паўплываць на ажыццяўленне планаў мадэрнізацыі, бо запахла нават новай дэвальвацыяй з-за адмоўнага балансу знешняга гандлю.

Адзінае, што сёлетні год не абцяжараны рознымі выбарамі, буйнымі палітычнымі кампаніямі, за выключэннем на фоне Года беражлівасці скарачэння дзяржслужачых адразу на 25 %. Тым, хто застанецца служыць дзяржаве і народу ў чыноўных кабінетах, да канца пяцігодкі павінны выканаць і новую задачу, каб выпрацоўваць трэць электрычнай і цеплавой энергіі за кошт уласных рэсурсаў. Як вынікае, планаў мноства маем, а вось як бы не прыйшлося шукаць яшчэ выхад з пагражаемай рэцэсіі, калі наша прадукцыя ляжыць на складах.

## Дзень за днём

**Сёлета ў 1-м квартале прамысловая вытворчасць у Беларусі скарацілася на 1,1 %, запасы гатовай непрададзенай прадукцыі на складах дасягнулі 32,3 трыльёна рублёў. У адрозненне ад суседзяў, у Беларусі зноў найбольш растуць цэны, ва Украіне тавары і паслугі таннеюць з другой паловы 2012 года. Больш чым палова беларусаў атрымоўваюць зараз заробкі, значна меншыя, чым у сярэднім па краіне (4,5 мільёна рублёў). Ужо ў сярэдзіне вясны ў большасць беларускіх санаторыяў раскупілі ўсе пуцёўкі да канца лета, а жыхароў інтэрнатаў абавязалі аплочваць сродкі на правядзенне капітальнага рамонту. Да 2015 года спартыўныя клубы РБ павінны выйсці на самаакупнасць, змяніўся і механізм заахвочвання лепшых спартсменаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Большасць амерыканцаў сталі занепакоены зноў фактам тэракту на Бостанскім міжнародным марафоне, падчас якога загінулі трое і было паранена больш 150 чалавек.

**Сербія.** Пры пасрэдніцтве ЕС краіна падпісала гістарычнае пагадненне з Косава аб нармалізацыі адносін, сербы цяпер могуць пачынаць перамовы аб уступленні ў Еўрасаюз.

**Бельгія**. Пасля аб'яўлення ўрадам падатковай амністыі бельгійцы забралі за апошніх 15 месяцаў толькі з банкаў суседняга Люксембурга 719 млн. еўра сваіх збераджэнняў.

**Украіна.** Правячая Партыя рэгіёнаў усяляк зацягвае пытанне аб выбарах мэра Кіева і дэпутатаў гарсавета, бо не мае шанцаў, аднак хоча рэферэндума па змене Канстытуцыі.

**Лівія.** МЗС Беларусі паабяцала даказаць у судзе невінаватасць арыштаваных чатырох беларускіх грамадзян, якіх улады абвінавацілі ў рамонце сродкаў СПА рэжыма Каддафі.

**Іран.** Магутнейшы за апошнія 40 гадоў землятрус сілай да 7,8 бала абрушыўся на пустынны раён краіны, загінулі сотні чалавек, калькасць раненых цяжка было падлічыць.

**Расія.** Новы расійскі галоўны банкір Эльвіра Набіуліна запэўніла, што ў Цэнтрабанка РФ ёсць усе інструменты для таго, каб утрымаць сёлета гадавую інфляцыю ў рамках 6 %.

**Літва.** Беларускаму паслу ў МЗС краіны ўручылі ноту пратэсту пасля парушэння днём ваенным самалётам МІГ-29 літоўскай паветранай прасторы над Аранскім раёнам.

**Пакістан.** Пасля ўцёку з залы суда паліцыя арыштавала экс-прэзідэнта краіны Первеса Мушарафа, яго вінавацяць у арганізацыі двух забойстваў палітыкаў, арыштах суддзяў.

**Ірландыя.** Ірландцы, па дадзеных Еўрастата, найбольш адукаваныя ў ЕС, 51 % дарослых маюць вышэйшую адукацыю, у лідарах яшчэ Кіпр, Люксембург, найгорш у Італіі (21,7 %).

**Расія.** Перад падачай дэкларацый аб сваіх даходах каля 30 дэпутатаў Дзярждумы РФ развяліся, хутчэй усяго фіктыўна, з жонкамі, у правячай партыі вельмі шмат багачоў.

**Новая Зеландыя.** Услед за Францыяй парламент краіны легалізаваў аднаполыя грамадзянскія шлюбы, адпаведны закон пачне дзейнічаць тут з сярэдзіны жніўня.

**Францыя.** Журы асноўнага конкурсу 66-га Канскага кінафестывалю ўзначаліў вядомы амерыканскі рэжысёр і прадзюсер С. Спілберг, у ім бяруць удзел 19 яркіх фільмаў.

**Расія.** Падчас веснавога прызыву ў армію зноў сталі браць хлопцаў з Дагестана, для студэнтаў ВНУ і аспірантаў увялі адтэрміноўкі, у казармах часцей – пральныя машыны.

**Польшча.** У адной з духоўных святынь палякаў горадзе Чанстахова адкрылі самы вялікі ў свеце помнік вышынёй 14 метраў свайму славутаму суайчынніку Яну Паўлу II.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасол Венесуэлы Д. Нуньес не пацвердзіў, але і не абверг інфармацыю аб даўгах Беларусі за нафту 2,8 мдрд. $, аднак і яго краіна не разлічылася за жыллё, шэраг аб'ектаў.

**Астравец**. Шэраг эколагаў заявілі, што будаўніцтва АЭС вядзецца ў непатрэбнай спешцы, заліўка бетона ў фундамент рэактара пачалася да стварэння ў РФ праектнай дакументацыі.

**Мінск.** Яшчэ больш 100 чалавек звольнілі з тэлезавода "Гарызонт", другі год аб'яднанне працуе з прастоямі, скарачае персанал, пагаршаецца абстаноўка і на сталічным МАЗе.

**Фаніпаль.** На новым заводзе электратранспарту з удзелам швейцарскай кампаніі Stadler у снежні пачнецца выпуск 24 двухпавярховых цягнікоў па 6 і 4 вагоны па заказе Расіі.

**Брэст.** Вядомая кампанія "Савушкаў прадукт" пачне з ліпеня продаж сваёй малочнай прадукцыі ў Еўрасаюз, а ў горадзе пачала будаваць яшчэ адзін свой малочны завод.

**Шклоў.** За атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры (69 млн. рублёў) Следчы камітэт распачаў справу і арыштаваў 1-га намесніка главы раёна, начальніка райсельгасхарча.

**Гродна.** Кампанія Samsung адкрые ў абласным цэнтры першы фірменны брэнд-шоп з сеткі магазінаў-салонаў па ўсёй Беларусі па продажы сваёй бытавой электронікі, планшэтаў.

**Смалявічы.** На тэрыторыі абласнога тэхнапарка пачаў працу першы ў Беларусі завод па перапрацоўцы да 4 тон зношаных аўтамабільных шын у гадзіну ў аўтаматычным рэжыме.

**Горкі.** У сталіцы леташніх "Дажынак" ля амфітэатра на беразе возера ў горадзе абваліўся грунт, тратуарная плітка, абліцоўка, на свята ў спешцы патрацілі 1 трлн. руб.

**Пухавічы.** Позна ноччу спрацаваў аўтаномны пажарны апавяшчальнік у адным з дамоў вёскі Седча і выратаваў жыцці пяці чалавек, з іх двое дзяцей, у шпіталь трапіў іх бацька.

**Жабінка.** У мясцовым рыбгасе "Сакалова" адбыўся другі па ліку за апошніх 8 месяцаў масавы мор рыбы, замест 13 тон на норме тут у гадавальны пруд запусцілі 65 тон карпу.

**Ашмяны.** Беларуская асацыяцыя журналістаў не пагадзілася з рашэннем мясцовага райсуда прызнаць фотаальбом "Прэс фота Беларусі 2011" "экстрэмісцкім матэрыялам".

**Нясвіж.** У мясцовым палаца-паркавым ансамблі адкрылася выстава "Кніжная спадчына Радзівілаў" з 90 унікальных кніг па гісторыі, тэалогіі, праву з вядомага рэгістра ЮНЕСКА.

**Будслаў.** На юбілейны фэст 5-6 ліпеня з нагоды 400-годдзя прыбыцця цудатворнага абраза Маці Божай Папа Рымскі накіраваў свайго прадстаўніка кардынала Жан-Луі Тарана.

**Гродна.** Абласны цэнтр стаў адным з лідараў спорту ў РБ: чэмпіёнамі Беларусі сталі вясной яго каманды "Нёман" (хакей), "Нёман-ГрДУ" (валейбол), "Алімпія" (баскетбол).

## УСЕ ШМАТКВАТЭРНЫЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ ДА 1 КАСТРЫЧНІКА АБСТАЛЮЮЦЬ АЎТАМАТЫЧНЫМІ СІСТЭМАМІ АСВЯТЛЕННЯ



■ Алена Ціханава - БелТА

**Аўтаматычныя сістэмы асвятлення будуць устаноўлены ў месцах агульнага карыстання ўсіх шматкватэрных жылых дамоў Віцебскай вобласці да 1 кастрычніка, паведамілі карэспандэнту БелТА ў кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама.**

У цяперашні час аўтаматычнымі сістэмамі асвятлення, якія рэагуюць на рух і гук, абсталявана каля 62% жыллёвага фонду вобласці. Да пачатку новага ацяпляльнага сезона плануецца ўсталяваць яшчэ 50 тыс. светлавых кропак. Такім чынам, да 1 кастрычніка ў рэгіёне будзе завершана работа па ўстаноўцы энергаэфектыўных сістэм асвятлення ў жылых шматкватэрных дамах.

Актуальным з'яўляецца і пытанне страт цеплавой энергіі. Па падліках спецыялістаў, у зімовы перыяд Віцебская вобласць губляла ў сетках больш за 18% цеплавой энергіі (планавы паказчык 17%). Да ацяпляльнага перыяду 2013/2014 года ў рэгіёне плануюць замяніць 120 кіламетраў сетак і забяспечыць змяншэнне страт цяпла пры яго дастаўцы да спажыўцоў да 16,3%.

Акрамя таго, камунальнікі рэгіёну за летні перыяд плануюць правесці рэканструкцыю 6 кацельняў агульнай магутнасцю 18 МВт. Мадэрнізацыя закране цеплакрыніцы ў Гарадку, Расонах, Глыбокім, Чашніках, Талачыне і вёсцы Слабада Шумілінскага раёна. Тут будуць ўсталяваныя катлы, якія працуюць на мясцовых відах паліва. Гэта дазволіць значна скараціць спажыванне імпартаванага прыроднага газу.

Будзе прадоўжана работа па цеплавой мадэрнізацыі жыллёвага фонду вобласці. Плануецца ўцяпліць 54 тысячы квадратных метраў сцен (каля 20-25 дамоў у 5 паверхаў).

Увесь комплекс работ па падрыхтоўцы да новага ацяпляльнага сезона ў Віцебскай вобласці будзе завершаны да 15 верасня. Планавыя інвестыцыі - 120 мільярдаў беларускіх рублёў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Падчас рабочага візіту глава МЗС Латвіі Эдгарс Рынкевічс паабяцаў яшчэ болей спрасціць парадак бязвізавых паездак беларусаў прыгранічных тэрыторый праз мяжу.

**Полацк.** Прадукцыя мясцовага завода "Прам››машрамонт" перастала карыстацца попытам, на складах у сакавіку яе залежалася на 14 мільярдаў рублёў, альбо за амаль 9 месяцаў працы.

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец за невыкананне даручэння прэзідэнта Беларусі і за зрыў работ па завяршэнні мадэрнізацыі на ААТ "Віцебскдрэў" атрымаў вымову.

**Расоны.** Найбольшыя ў вобласці нязручнасці напаткалі жыхароў раёна, бо па новых санправілах свіней, бычкоў на продаж мясам яны павінны вазіць на ўбой у Полацк.

**Віцебск.** У ліку яшчэ 5 важнейшых прадпрыемстваў галіны на лікёра-гарэлачным заводзе "Прыдзвінне" пачалі рыхтаваць дакументы па змене статусу і акцыяніраванні сёлета.

**Глыбокае.** Райцэнтр, які папрыгажэў да Дня беларускага пісьменства, стаў пераможцам рэспубліканскага агляду-конкурсу па добраўпарадкаванні населеных пунктаў за 2012 год.

**Чашнікі.** У райцэнтры адкрылі новы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, найперш 10,5 тысяч пенсіянераў, з іх амаль 5,5 тысяч адзінокія людзі.

**Віцебск.** У медыцынскія ўстановы вобласці з 621 выпускніка медуніверсітэта накіравалі працаваць сёлета па размеркаванні 251 маладога спецыяліста, але з іх - толькі 10 урачоў паедуць працаваць у сельскую мясцовасць.

**Бешанковічы.** З-за моцнага павышэння ўзроўню вады ракі Улла на паўмесяца быў падтоплены мост ля вёскі Ульянаўка, 80 жыхароў якой былі адрэзаны ад цывілізацыі.

**Шуміліна.** Ля вёскі Слабада ноччу веснавымі водамі размыла ўчастак прасёлачнай дарогі шырынёй 8 метраў і глыбінёй 1 метр, куды трапіў кіроўца "Жыгулёў" і пашкодзіў аўто.

**Браслаў.** Днём 44-гадовы вадзіцель-дальнабойшчык са сваёй фурай выскачыў на галоўную дарогу, сутыкнуўся з грузавым аўтамабілем ГАЗ, кіроўца яго загінуў на месцы.

**Докшыцы.** За незаконную здабычу дзіка з дапамогай металічнай пятлі ў лясным масіве паблізу Бягомля суд пакараў браканьера, жыхара раёна штрафам на 16,7 мільёна рублёў.

**Наваполацк.** Вучню 8 класа прыйшлося прайсці курс лячэння ў гарадской райбальніцы ад пераахаладжання арганізма пасля катання і падзення з ільдзіны ў раку Заходняя Дзвіна.

**Бешанковічы.** З надыходам вясны на тэрыторыі раёна вырашылі сэканоміць на вулічных электрасетках і вырашылі паўсюдна ў сельскай мясцовасці адключыць ноччу ліхтары.

**Наваполацк.** Яшчэ адна падапечная заслужанага трэнера Беларусі Віктара Шэршукова 19-гадовая Алена Чычкан упершыню стала чэмпіёнкай Еўропы па цяжкай атлетыцы.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Ул. Скрабатун

# На рыбалку ходзяць сем'ямі


Фота Ул. Скрабатуна.

**Яшчэ год таму рака Беразвіца паміж азёрамі Кагальнае і Вялікае ўяўляла вузкую водасцёкавую канаву. Якая тут рыбалка! Кустоўе, аер, невялічкая глыбіня, балота ...**

Да Дня беларускага пісьменства і друку з дапамогай землярыйнай тэхнікі рэчышча Беразвіцы было паглыбленае і пашыранае ўтрая. Фактычна горад атрымаў яшчэ адзін новы вадаём у цэнтры горада. Мясцовыя ўлады зрабілі добры падарунак аматарам рыбалкі.

З красавіка месяца тут цэлае паломніцтва. Што цікава: сярод рыбаловаў-аматараў, без перабольшвання, кожная трэцяя – дзяўчына. Хто б мог падумаць, што самая прыгожая палавіна нашага горада так захопленая рыбалкай! І чамусьці гэтай палавіне, на зайздрасць, больш шанцуе на вылаў буйной рыбы.

Зрэшты, заўважна, што на рыбалку сюды прыязджаюць нават сем'ямі разам з дзецьмі. Клёў уклейкі і плоткі досыць актыўны. Сям'ёй у чатыры вуды можна і вядро налавіць!

Смажаная ўкляя даволі смачная рыба. Можна сказаць, што гэта наша своеасаблівая «беларуская кілька». Такое атаясамленне аўтар гэтых радкоў прыводзіць нездарма! З нашай уклеі ў хатніх умовах, без асаблівых цяжкасцяў, можна зрабіць сапраўдныя шпроты.

Рэцэпт прыгатавання шпротаў з уклеі сам аўтар артыкула вывудзіў з інтэрнету, а іх там мноства. Таму не буду іх апісваць, самі можаце вувудзіць з інтэрнэту. Галоўнае, што не трэба ніякіх слоікаў, бляшаных банак і, зразумела, закатачных прыстасаванняў. Патрэбен толькі рондаль з накрыўкай!

Ах, вы не ведаеце, што такое рондаль?! Цяпер шмат вяртаецца слоў ва ўжытак са старадаўняй беларускай кухні, а ў часы Вялікага Княства Літоўскага рондалем называлі каструлю. Зразумелі?

Тэхналогія вельмі простая. Чысцім рыбу – укляю і плотку – адразаем галовы, выкідваем вантробы. Складаем у рондаль слаямі. Зразумела, трэба дадаць спецыі для рыбы, соль, лаўровы ліст, заліць алеем. Прыціснуць накрыўкай (я бяру накрыўку ад меншага па памеры рондаля). На павольным агні (а лепш у духоўцы) гатуем сама меней 4 гадзіны, а калі шмат рыбы ў рондалі, то і пад 6 гадзінаў. Косткі рыбныя становяцца мяккімі і не адчуваюцца, так як гэта ёсць у купленых магазінных шпротах. У прынцыпе, прыгатаваныя шпроты можна скласці ў стэрылізаваныя слоікі (кажуць, што слоікі можна стэрылізаваць і ў мікрахвалевай печцы) ды паставіць у халадзільнік. То бутэрброды са шпротамі з уклеі можаце частавацца дзён дзесяць.

Але, ізноў зазначу, рэцэптаў у інтэрнеце шмат. Я вось гатаваў па адным рэцэпце – і мне **не** спадабалася! Па ім – кожны новы слой рыбы трэба перакладаць слоем цыбулі і скрылёчкамі лімона, дадаваць раствор воцату, заліць алеем. Кісляціна атрымалася!!! Я й гарбату з лімонам не п'ю, а тут – рыба! Але: «на вкус и цвет приятелей нет» – так кажуць у народзе.


Першая ў жыцці ўклейка.
Фота Кастуся Бахіра.

Пару дзён таму прыгатаваў па спрошчаным рэцэпце, які вышэй апісаны. Бо, сапраўды, у рыбных кансервах, якія выробленыя з дабаўленнем алею і прадаюцца ў крамах, ніякай цыбулі, лімона, морквы няма.

І, ведаеце, што на смак шпроты з уклеі атрымаліся, што і не адрозніш ад кансерваў у алеі, якія выробленыя са скумбрыі, сардзінаў, сялёдкі... Ва ўсякім разе, так мне падалося на смак.

Так што, жадаю поспехаў у прыгатаванні шпротаў з уклеі, стварыць свой уласны адмысловы рэцэпт прыгатавання шпротаў. Эксперыментуйце!

# Віншаванкі

*Наталлю Сядову*

**Віншуем з юбілеем!**

Желаем счастья много-много,
Улыбок радостных букет,
Друзей хороших и весёлых,
Везенья в жизни, долгих лет!
Желаем, чтоб ушли печали,
Чтоб близкие не огорчали,
Чтоб были вёсны средь зимы и лета,
Чтоб было много-много света!
Чтобы преградам всем назло
Жилось, любилось и везло!
Чтоб всё заветное могло свершиться,
Ведь ради этого и стоило родиться!

*Калектыў «ВГ»*

*Іну Сяргееўну Сядову*

**віншуем з Днём нараджэння!**

Инна - удачная и успешная леди,
Об этом знают не только соседи,
Но и сотрудники, а также друзья,
С чем не поздравить Инну нельзя.

Инна к успеху идет напролом,
И конкурентов ожидает облом.
Точный расчет – победы залог.
Инна - прекрасный с шипами цветок!

Тебя поздравляем от сердца и почек
И дарим зеленых бумажек пучочек!!!

*Муж і дочкі.*

■ Аляксей Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету.*

# І зноў штраф, слёзы, соплі...

**Рэспубліка Беларусь здаўна славілася сваімі прыроднымі багаццямі. Толькі фонд рыбалоўных угоддзяў у наш час складае больш за 10 тысяч азёраў агульнай плошчай 134 тыс.гектараў, 80 тысяч гектараў вадасховішчаў, 90 тысяч кіламетраў вялікіх і малых рэк. Агульная плошча паляўнічых угоддзяў у Беларусі складае больш за 18 мільёнаў гектараў.**

З наступленнем вясны на вадаёмах рэспублікі пачынаецца масавы нераст рыбы, у сувязі з чым, паводле Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у Рэспубліцы Беларусь уводзяцца абмежаванні і забарона на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама з выкарыстаннем пэўных прыладаў лоўлі і спосабаў рыбалоўства. Так, паводле пункта 136 Правіл забараняецца вылоўліванне ўсіх відаў рыбы з 1 красавіка па 30 траўня, за выключэннем аматарскага рыбалоўства, якія здзяйсняецца рыбаловам адной вудай з адным кручком.

Пунктам 138 Правіл у наш час забараняецца лоўля: рака вузкапалага з 15 кастрычніка па 15 ліпеня, з 31 траўня па 1 ліпеня – лоўля сома звычайнага.

Паводле пункта 140.6 Правілаў у перыяд з 1 сакавіка па 30 траўня забараняецца выкарыстанне грамадзянамі маламерных суднаў і суднаў з рухавікамі ў рыбалоўных угоддзях.

За парушэнне ўсіх вышэй пералічаных забарон грамадзяне, а таксама юрыдычныя асобы могуць быць падвергнуты штрафу паводле арт. 15.35 Кодэкса Рэспублікі Беларусь «Пра адміністрацыйныя правапарушэнні», грамадзяне – штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а юрыдычныя асобы ў памеры 500 базавых велічынь.

**Штраф за спальванне сухой расліннасці ў Эстоніі – 1000 даляраў ЗША.**

З наступленнем вясны і ўсталяваннем цёплага надвор'я грамадзяне пачынаюць паліць траву, іржышча, мяркуючы па сваёй наіўнасці, што тым самым яны палепшаць сенажаці, але падчас спальвання сухой травы ў першую чаргу гіне каранёвая сістэма лепшай травы, а замест травы багата пачынаюць расці пустазеллі. Падчас пажараў шмат гіне яйкаў птушак, маладняк зайца-русака, а ўжо ёсць прыплод.

За выпальванне сухой расліннасці, травы на кораню, а таксама ржышча і пожніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў на зямельных участках – цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь, а ў Эстоніі штраф 1000 даляраў ЗША. Таму грамадзянам трэба задумацца, спальванне сухой травы можа прывесці да чалавечай трагедыі, гібелі маёмасці. З законам гуляць не варта.

Шмат на тэрыторыі раёна і несанкцыянаваных звалак. Смецце вывозяць у лес паблізу вёсак, пакідаюць уздоўж дарог, ля вадаёмаў. Атрымліваецца як у дрэннай гаспадыні, смецце змялі ў кут і прыкрылі венікам. Так, 30 красавіка 2013 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі паблізу в. Шунеўцы затрыманыя двое мясцовых жыхароў, якія праводзілі забруджванне драўняна-хмызняковай расліннасці сцёкавымі водамі, вылілі адпампаваную з каналізацыйнай студні жыжку ў сад і прыдарожную паласу. Парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, атрымалі штраф.



3 траўня 2013 года ў тым жа месцы інспектарамі міжрайінспекцыі затрыманы жыхар раёна за выкід побытавага смецця і зноў - штраф, слёзы, соплі, выбачайце за грубасць, але па-іншаму не скажаш. Увечары 4 траўня, праязджаючы праз лясны масіў Борок, інспектары выявілі цэлую кучу свежавыкінутага смецця на абочыне дарогі. Як скрушна ўсё гэта назіраць, жывём як на звалцы. Усе ўсё бачаць, але маўчаць, не жадаюць сварыцца, бо кінулі не да мяне ў гарод, а да суседа.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да забруджвання лясоў, браканьерства. Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 «гарачая лінія» – кругласутачна: 2-80-30 , 897-23-02, 890-55-28, 511-39-94, 645-66-78.



Праваслаўныя глыбачане масава прыходзілі ў Вялікдзень да сабора Нараджэння Багародзіцы для асвячэння велікодных страваў. *Фота Ул. Скрабатуна.*

# 815 км беларускіх дарог стануць платнымі

## Пералік платных аўтадарог зацверджаны ў Беларусі.

**Урад Беларусі пастановай нумар 340 ад 30 красавіка вызначыў пералік дарог, на якіх з 1 ліпеня гэтага года будуць спаганяць плату за праезд транспартных сродкаў праз адпаведную электронную сістэму, паведамляе БЕЛТА.**

Платнымі стануць 815 км дарог краіны. Гэта датычыцца ўсёй працягласці аўтамагістралі Брэст (Казловічы) — Мінск — мяжа Расіі (Рэдзькі), а таксама асобных участкаў аўтамабільных трас М-2 Мінск — Нацыянальны аэрапорт Мінск, М-3 Мінск — Віцебск, М-4 Мінск — Магілёў, М-5/Е 271 Мінск — Гомель і М-6/Е 28 Мінск — Гродна — мяжа Польшчы (Брузгі).

Пастановай нумар 340 у цэлым зацверджана палажэнне аб парадку спагнання платы за праезд аўтамабіляў па платных дарогах Беларусі і ўнесены дапаўненні і змяненні ў некаторыя пастановы ўрада Беларусі. Так, у прыватнасці, Транспартнай інспекцыі Мінтранса прадпісана кантраляваць выкананне карыстальнікамі платных аўтадарог устаноўленага заканадаўствам парадку спагнання збораў за праезд.

На службовых асоб інспекцыі ўскладваюцца паўнамоцтвы па прыняцці рашэнняў аб блакіроўцы колаў, затрыманні і эвакуацыі транспартных сродкаў на ахоўную стаянку ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі.

Міністэрства транспарту і камунікацый па ўзгадненні з Мінфінам абавязаны ў месячны тэрмін устанавіць парадак акруглення платы за праезд па платных аўтамабільных дарогах, у тым ліку ў павялічаным памеры, і залогавага кошту ўстройства электроннай аплаты. Рэспубліканскія органы дзяржкіравання ў тыя ж тэрміны павінны прывесці свае нарматыўныя акты ў адпаведнасць з пастановай нумар 340, якая ўступае ў сілу пасля яе афіцыйнага апублікавання.

Як паведамлялася раней, аўстрыйская кампанія Kapsch TrafficCom AG, што выступае ў якасці інвестара, усяго накіруе больш як 267 млн еўра на рэалізацыю праекта стварэння ў Беларусі электроннай сістэмы BelToll, якая пачне работу з 1 ліпеня.

Інвестдамова прадугледжвае, што пасля здачы інвестарам у эксплуатацыю кожнай чаргі абсталявання, яно прымаецца ва ўласнасць Беларусі.

Згодна з указам нумар 426 ад 27 верасня 2012 года ад платы за праезд па некаторых беларускіх аўтатрасах будуць вызвалены транспартныя сродкі, якія зарэгістраваны на тэрыторыі дзяржаў — удзельніц Мытнага саюза, з тэхнічна дапушчальнай агульнай масай не больш як 3,5 т.

Бясплатна змогуць праязджаць мапеды і матацыклы, зарэгістраваныя ў Беларусі, калёсныя трактары і самаходныя машыны, транспартныя сродкі аператыўнага прызначэння, а таксама тыя, што выкарыстоўваюцца ў мэтах забеспячэння абароназдольнасці і правапарадку. Не трэба будзе плаціць вадзіцелям маршрутак для гарадскіх перавозак пасажыраў, аўтамабіляў, што прымяняюцца для аказання медыцынскай дапамогі, ліквідацыі надзвычайных сітуацый або перавозак грузаў гуманітарнай дапамогі насельніцтву Беларусі і іншых краін.

Памер платы за праезд устаноўлены і вагаецца ў залежнасці ад дапушчальнай агульнай масы транспартнага сродку і колькасці восей, складаючы ад 0,04 да 0,12 еўра за 1 км.

*БЕЛТА*




# Хлопец з-пад Глыбокага бараніў беларускі сцяг у Стакгольме



Шведскія ахоўнікі спрабуюць адабраць бел-чырвона-белы сцяг у Аляксея Букі. *Фота Радыё Свабода.*

Беларускія хлопцы ўзнялі вялізны бел-чырвона-белы сцяг падчас хакейнай гульні Беларусь – Чэхія на чэмпіянаце свету ў Стакгольме (Швецыя). Потым баранілі гістарычны сімвал роднай краіны ад ахovы стадыёна, бо арганізатары чэмпіяната палічылі, што гэта "палітычная сімволіка".

Да іх падышлі ахоўнікі і настойліва папрасілі прыняць сцяг. Хлопцы адмовіліся, ахоўнікі адчапіліся. Праз два дні, на матчы Беларусь – Славенія, беларусы зноў разгарнулі бел-чырвона-белы сцяг. На гэты раз іх скруцілі і вывелі са стадыёна. Забарона на выкарыстанне нацыянальнай сімволікі выклікала гарачыя дыскусіі ў Беларусі і за яе межамі.

Адным з тых, хто разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг, а потым адмовіўся яго згортваць, быў Аляксей Бука з вёскі Валодзькава. Зараз ён ужо вярнуўся са Стакгольму ў Варшаву, дзе вучыцца і працуе.

Паводле *Westki.info*

**PS.**

Міжнародная хакейная федэрацыя ўсё ж дала задні ход: бел-чырвона-белыя сцягі можна ізноў праносіць на матчы. Гэта стала вынікам кампаніі пратэсту, якую разгарнулі беларусы. Яны засыпалі хакейную федэрацыю лістамі з крытыкай забароны карыстання бел-чырвона-белымі сцягамі на матчах. Яе ўявілі з падачы беларускі чыноўнікаў. У адказ у Стакгольме з удзелам шведскай грамадскасці адбыўся пікет у падтрымку бел-чырвона-белых сцягоў.

Падчас пікету ад шведскіх журналістаў стала вядома, што Міжнародная хакейная федэрацыя дазволіла праносіць бел-чырвона-белыя сцягі на матч, але іх рэкамендуецца трымаць на плячах, размахваць імі нельга.

# Уважаемые жители города Глубокое и Глубокского района!

21 мая 2013 года с 11:00 до 13:00 в малом зале заседания здания Глубокского райисполкома (г. Глубокое, ул. Ленина, д. 42) будет проводиться выездной личный прием граждан, их представителей и представителей юридических лиц начальником УВД Витебского облисполкома полковником милиции **Евсеевым Игорем Владимировичем.**

Прием будет проводиться по предварительной записи. Запись будет осуществляться с 15 по 19 мая 2013 года.

С 15 по 17 мая 2013 года ежедневно с 9.00 до 13.00 и с 14.00 до 18.00 часов по телефонам:

**в городе Глубокое** 8 - 02156 - 2 - 25- 39 в **городе Витебске** 8 - 0212 - 55 - 05 - 38

С 18 по 19 мая 2013 года (субботу и воскресенье) – с 09:00 до 18:00 часов по телефону:

**в городе Глубокое 8-02156 - 2 - 27 - 02**

21 мая 2013 года с 13:00 до 14:00 начальником УВД Витебского облисполкома полковником милиции **Евсеевым Игорем Владимировичем** будет проводиться «прямая телефонная линия». Позвонив по телефону: 8-02156-2-24-79, вы сможете задать вопросы, касающиеся работы органов внутренних дел Витебской области.

***В.И.Васюкович,***

*начальник отдела внутренних дел Глубокского райисполкома подполковник милиции*




*Інну Сяргееўну Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,
Беда и печаль на пути не встречалась,
Огромного счастья, отличных друзей,
Здоровья желаем и радостных дней!
Что задумано, пусть исполнится,
Всё хорошее пусть запомнится,
Пусть глаза ваши счастьем светятся,
Люди добрые в жизни встретятся,
Пусть здоровье будет до старости,
Мы желаем вам только радости!



*Калектыў "ВГ".*

## Украіна часова забараніла ўвоз мяса з Беларусі – з-за рызыкі заражэння афрыканскай чумой свіней

**Украіна часова забараніла ўвоз з Беларусі свініны, а таксама мяса жывёлаў, адчувальных да захворвання афрыканскай чумой, прадукцыі і сыравіны з іх. Адпаведнае паведамленне з'явілася 7 мая на сайце Дзяржаўнай ветэрынарнай і фітасанітарнай службы Украіны.**

Нагадаем, што ў пачатку месяца ў прэсе з'явіліся паведамленні пра масавы мор свіней на свінакомплексе «Усходні», што ў Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці.

Паводле афіцыйнай версіі, нічога надзвычайнага на комплексе не адбываецца. Мясцовыя жыхары, а таксама шарагоўвыя супрацоўнікі «Усходняга» сцвярджаюць пра гібель тысяч галоў свіней.

*nn.by*

# Да 1 ліпеня газеты «Рэспубліка» і «Белорусская нива» павіны быць далучаны да «Советской Белоруссии»

**Рэдакцыі газет «Рэспубліка» і «Белорусская нива» рэарганізуюцца шляхам далучэння да друкаванага органа Адміністрацыі прэзідэнта газеты «Советская Белоруссия». Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў Беларусі ад 30 красавіка, якая 4 мая была апублікавана на Нацыянальным прававым партале.**

Міністэрству інфармацыі даручана забяспечыць рэалізацыю пастановы да 1 ліпеня 2013 года. Пастанова ўвайшла ў сілу з моманту яе прыняцця.

У верасні мінулага года міністр інфармацыі Алег Праляскоўскі на сустрэчы з калектывам пружанскай газеты «Раённыя будні» паведаміў, што вядзецца праца па стварэнні грамадска-палітычнага выдавецкага дома, у які ўвойдуць пяць асноўных дзяржаўных газет краіны.

Паводле яго слоў, у новы холдынг увойдуць «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Рэспубліка», «Белорусская нива» і «Знамя юности». Што тычыцца назвы выдавецкага дома і газеты, якая будзе яго прадстаўляць, то вырашана, што гэта не будзе «Советская Белоруссия». «Беларусь — краіна невялікая, і ў нас не так шмат навінаў і падзей, таму рэспубліканскія газеты ў многім дублююць адна адну, пішуць пра адно і тое ж. Пры стварэнні адзінага выдавецкага дома з'явіцца магчымасць манеўру рэдакцыйнай палітыкі. І самае галоўнае: у краіне з'явіцца адзіны дзяржаўны друкаваны орган — сур'ёзны, вялікі, аўтарытэтны», — сказаў міністр.

15 студзеня гэтага года Аляксандр Лукашэнка на прэс-канферэнцыі заявіў, што дзяржава не пойдзе з ідэалагічнага сектара.

Адказваючы на пытанне пра аб'яднанне «Советской Белоруссии» з іншымі дзяржаўнымі рэспубліканскімі газетамі, Лукашэнка зазначыў, што ў неабходнасці такога кроку яго пераканаў галоўны рэдактар «СБ» Павел Якубовіч. Галоўная мэта стварэння холдынга — эфектыўнасць. «А эканомія — гэта ўжо потым», — дадаў Лукашэнка.

Ён заявіў, што не з'ўляецца праціўнікам раздзяржаўлення прэсы: «Мы б з задавальненнем, калі б газеты раздзяржавіліся і самі існавалі без маёй падтрымкі, адміністрацыйнай і бюджэтнай. Для мяне гэта было б лягчэй і прасцей. Але, вы ведаеце, ёсць пэўныя нюансы. Вы працавалі ў газетах і ведаеце, што ўзнікаюць іншыя пытанні ў супрацьвагу».

*БелаПАН.*

# ЛДП заклікае «не на словах, а на справе» аказаць матэрыяльную дапамогу ТБМ

**Ліберальна-дэмакратычная партыя заклікае ўсе палітычныя партыі, якія падтрымліваюць беларускую мову і культуру, не на словах, а на справе аказаць матэрыяльную дапамогу грамадскаму аб'яднанню «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ).**

Развіццё грамадзянскай супольнасці і дэмакратыі, адзначаецца ў інфармацыйным паведамленні ЛДП, немагчымае без стварэння належных умоў для развіцця палітычных партый і грамадскіх арганізацый.

«Палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі не маюць права займацца камерцыйнай і гаспадарчай дзейнасцю і існуюць выключна за кошт ахвяраванняў грамадзян. У сувязі з гэтым афіцыйна зарэгістраваныя палітычныя партыі і буйныя грамадскія арганізацыі павінны мець спецыяльны паніжальны каэфіцыент пры заключэнні дагавораў арэнды», — мяркуюць у ЛДП.

У хуткім часе ЛДП мае намер правесці круглы стол, на якім будзе ўзнята пытанне павышэння арэнднай платы. Па выніках мерапрыемства партыя плануе адправіць у дзяржаўныя органы канкрэтныя прапановы па вырашэнні праблемы.

Як раней паведамляў БелаПАН, ТБМ звярнулася да грамадскасці па дапамогу ў сувязі з рэзкім ростам кошту




арэнды 1 красавіка — з 5 млн. 100 тыс. рублёў да 9 млн. 801 тыс. 600 рублёў у месяц. «Нягледзячы на шматлікія звароты грамадзян Беларусі ў адміністрацыю і кіраўніцтва справамі прэзідэнта з просьбай пакінуць для ТБМ ільготную цану арэнды, мы не атрымалі станоўчага адказу», — паведамляе сакратарыят ТБМ.

ТБМ заснавана ў 1989 годзе і афіцыйна зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі. Паводле звестак сайта арганізацыі, цяпер у ёй налічваецца каля 6 тыс. членаў у Беларусі і за мяжой — у Літве, Польшчы, Расіі, ва Украіне, у Латвіі, ЗША, Канадзе, Германіі і іншых краінах. Узначальвае арганізацыю вядомы грамадскі дзеяч, гісторык Алег Трусаў. Офіс ТБМ размешчаны ў цэнтры Мінска, на адрасе: вул. Румянцава, 13.

«Калі пяць тысяч прыхільнікаў роднай мовы ахвяруюць штомесяц усяго дзве тысячы рублёў, наша арганізацыя не загіне і ў каторы раз прадэманструе сённяшняй уладзе сваю годнасць. Імёны асобаў, якія ахвяруюць пасільныя сродкі на падтрымку дзейнасці ТБМ, будуць надрукаваныя ў газеце «Наша слова», што стане гістарычным сведчаннем змагання грамадзян за правы «людзьмі звацца», — гаворыцца ў звароце ТБМ.

Грошы можна пераводзіць на рахунак ГА «ТБМ імя Францішка Скарыны» № 3015741233011 у аддзяленні № 539 ААТ «Беланвестбанк», код 739.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*



# ФАО акажа тэхнічную дапамогу для развіццясельскайіляснойгаспадаркі,а таксама рыбаводчай галіны Беларусі

**Гендырэктару Харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыі ААН (ФАО) Жазэ Грацыяну да Сілва 6 мая перададзена нота беларускага МЗС аб заключэнні пагаднення з урадам Беларусі аб тэхнічнай дапамозе ФАО.**

Дакумент кіраўніку арганізацыі перадаў пасол Беларусі ў Італіі, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры (ФАО) Яўген Шастакоў.

Як паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі, «заключэнне гэтага пагаднення шляхам абмену нотамі фіксуе рамачныя ўмовы для атрымання Беларуссю тэхнічнай дапамогі ФАО».

«Пасля завяршэння гэтай працэдуры будуць зняты ўсе фармальныя бар'еры для прыцягнення нашай краінай тэхнічнай дапамогі ФАО ў мэтах развіцця сельскай і лясной гаспадаркі, а таксама рыбаводчай галіны Беларусі», — зазначаюць у МЗС.

Падчас сустрэчы беларускім бокам была выказана зацікаўленасць у распрацоўцы праграмнага дакумента аб стратэгічных кірунках супрацоўніцтва Беларусі з ФАО. Таксама было пацверджана запрашэнне гендырэктару арганізацыі наведаць Беларусь.

Апрача таго, на сустрэчы абмеркаваныя кірункі ўзаемадзеяння з Харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыяй ААН на найбліжэйшую перспектыву.

Бакі дамовіліся больш дэталёва абмеркаваць акрэсленыя на перамовах пытанні падчас 38-й сесіі канферэнцыі ФАО і 147-й сесіі Савета ФАО, якія запланаваныя на чэрвень, паведамляе прэс-служба МЗС.

*Андрэй Серада, БелаПАН.*

# Еўропа ратуе пчол

## Еўрасаюз забараніў выкарыстоўваць тры пестыцыды, што шкодзяць пчолам ды іншым апыляльнікам.

**Двухгадовы мараторый уведзены на выкарыстанне клоціянідзіну ды імідаклопрыдому, які вырабляла нямецкая фірма Bayer, ды ціметаксаму швейцарскай фірмы Syngenty.**

Гэта пастанова была прынята згодна доследаў па негатыўным уздзеянні трох неанікатыноідаў на меданосных пчол. Цяпер гэтыя рэчыва могуць выкарыстоўвацца толькі для абароны раслін, якія не апыляюцца пчоламі, а таксама згаданыя пестыцыды не павінны ўжывацца для абароны такіх культур, як кукуруза, рапс і сланечнік.

Неанікатыноіды з'ўляюцца рэчывам, падобным да нікатыну. Яны распыляюцца на насенне і трапляючы у галаўны мозг насякомых, паралізуюць ды забіваюць апошніх.

Сусветны рынак для гэтай групы пестыцыдаў ацэньваецца амаль у 2 млрд еўра ў год. Вытворцы пагражаюць жахлівым голадам: быццам без неанікатыноідаў пацерпяць фермеры.

Неанікатыноіды знаходзяць таксама і на тэрыторыі ЗША, дзе на працягу некалькіх гадоў, гінуць пасекі. Амерыканскія пчаляры і «зялёныя» скардзяцца на федэральнае агенцтва абароны асяроддзя, якая дасюль не выдала адпаведнай забароны.

*Руслан Равяка*

